# Ніва

ТЫДНЁВІК ГП БГКТ

№ 14 (893) ГОД XVIII БЕЛАСТОК 8 КРАСАВІКА 1973 г. ЦАНА 60 гр.

*Кіраўнік аддзела культуры Прэзідыума ВРН у Беластоку А. Гжэськевіч на аглядзе «Беларуская песня — 73».*

Нашы ІНТЭРВ'Ю

## СТАІМ ПЕРАД ВЯЛІКІМІ ЗАДАННЯМІ

РАЗМОВА З КІРАЎНІКОМ АДДЗЕЛА КУЛЬТУРЫ ПРЭЗІДЫУМА ВАЯВОДСКАЙ РАДЫ НАРАДОВАЙ У БЕЛАСТОКУ АНТОНІМ ГЖЭСЬКЕВІЧАМ.

— Бягучы год багаты вялікімі здарэннямі ў культурнай дзейнасці ў краіне. Яны накрэсліваюць галоўныя напрамкі культурнай працы таксама на Беласточчыне.

— Найперш хочацца прыпомніць пастановы VI з'езду партыі, дзе гаворыцца пра раўнамернае развіццё грамадскага, гаспадарчага і культурнага жыцця. Трэба ўсімі сіламі старацца нам, каб гэтыя пастановы ператвараліся ў рэчаіснасць. Калі рэч ідзе пра агульнанародныя гадавіны, праўда, імі бягучы год багаты. Гэта Год Каперніка, Год польскай навукі, працяг святкавання 50-ай гадавіны ўтварэння СССР і вельмі важнае для нас здарэнне — Цэнтральныя дажынкі ў Беластоку. Адзначэннем 200-ай гадавіны Камісіі нацыянальнай адукацыі займаецца ў асноўным Куратория і беластоцкія вышэйшыя школы.

— Як Беласточчына ўключаецца ў агульнанародныя мерапрыемствы?

— У нас былі тры выстаўкі, прысвечаныя капернікаўскай гадавіне, у тым ліку адна міжнародная. У Цеханоўцы ў маі адбудзецца папулярна-навуковая сесія, прысвечаная К. Клюку — вучонаму-прыродазнаўцу, чыё імя мае цеханоўскі музей. Сесія будзе арганізавана разам з Польскай акадэміяй навук. Багата прадстаўляецца святкаванне 150-ай гадавіны Аўгустоўскага канала — гэтага аб'екта прагрэсіўнай тэхнічнай думкі.

У святкаванні 50-ай гадавіны СССР цэнтральным мерапрыемствам у гэтым годзе былі нядаўнія дні дружбы з Літоўскай ССР.

З нашага боку раён прадстаўляе некаторыя мерапрыемствы агульнанароднага характару. Гэта фестываль «Музыка і паэзія» ў красавіку. У маі — фестываль жаўнерскіх тэатраў паэзіі, які спалучым з 30-ай гадавінай Польскага Войска. На Беласточчыне таксама адбываюцца кожны год тры міжнародныя мастацкія пленеры: разьбы ў дрэве ў Гайнаўцы, жывапісу — у Белавежы і жывапісу — у Аўгустове.

— І пра нашы дажынкі?..

Працяг на стар. 4

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З ДУБЯЖЫНА

## ПРАЦЯГ ДУБЯЖЫНСКІХ ПРЫГОД

Калі мы выбіраліся ў Беласток на цэнтральны агляд «Беларуская песня — 73», у нашай вёсцы па-рознаму пра нас думалі. Адны смяяліся, другія падбадзёрвалі: «Хлопцы, заспявайце так, каб і мы былі задаволены, каб нас не ўсё ваяводства пахвалілі».

Паехалі. Была нядзеля і сыпаў пушысты снег. У акне вагона краявід

*(Працяг на стар. 3)*



*Вакальны калектыў з Дубяжына, які на цэнтральным аглядзе «Беларуская песня — 73» заняў II месца.* *Фота А. Карпюка.*

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве"

*Справаздача аб цэнтральным аглядзе драмгурткоў ● Справаздача аб II пленуме ГП БГКТ ● Візіт у беластоцкім аддзеле Інстытута метэаралогіі ● Аб беларускай літаратуры ў Чэхаславакіі ● Магіла ў Лядскай пушчы ● Заходняя МВС — карэспандэнцыя з Мінска ● Весткі з Ячна, Багданкаў, Дубяжына, Навакорніна, Грыгораўцаў, Кляшчэляў, Гарадка, Ялоўкі і Юшкавага Груда ● Песня «Чэрвона рута».*

## КАЛОДНА — вёсачка дружная

Долам ўецца рака Плоска, а навакольныя горы — Лысую, Каралёву, Анны, Яна, Святую — схаваў стромкі густы лес. У гэтым маляўнічым куточку сённяшняга Беластоцкага павету здаўна гаспадарыць чалавек, а сівая мінуўшчына, якой не запісалі афіцыяльныя хронікі, усё яшчэ жыве ў легендах ды мясцовых назвах. Легенды і назвы... Яны тут пераплаліся і стварылі адзінае цэлае: Крулёвы Мост, Пераходы, Калодна. Людскі пот, кроў і мары аб лепшай будучыні запоўнілі іх.

Недзе ў XVI стагоддзі, калі кароль Зыгмунт Аўгуст са сваёй прыдворнай світай ехаў у Гродна, надвячоркам пазалочаныя карэты затрымаліся каля балоцістай ракі. Не хацелася каралю ды вяльможам совацца ўброд — чаго добрага ў балотнай твані запэцкаешся ці карэту пашкодзіш. Князь Радзівіл на момант адхіліўся ад світы — і ўміг паскакалі на конях пасыльныя ў навакольныя сёлы. Тутэйшыя маёнткі належалі яго славутаму роду, і не мог жа на радзівілаўскай зямлі караль абмачыць у багну свой туфель з брыльянтавымі пражкамі!.. Перад захадам сонца ціўны сагналі сотні прыгонных сялян. Загудзеў лес. А калі першыя праменні раніцы глянулі з-за вершалінаў дрэў, абодва берагі ракі Плоскі злучаў навясенькі, моцны і прасторны мост. Зыгмунт уз'ехаў на яго, выйшаў з карэты, глянуў. Са смалістых бярвенняў капала пахучая празрыстая жывіца. Смярдзючы пот прыгонных не меў права трапіць у шляхетныя каралеўскія ноздры — вакол не было і душы. Мост назвалі Крулёвым. Але на ім доўгія гады нешта страшыла, і простыя людзі здалёк яго абміналі. Цераз Плоску хадзілі і ездзілі ўброд каля Пераходаў.

Корпус напалеонаўскага маршала Нея ў не-

*(Працяг на стар. 3)*

## БГКТ ХРОНІКА

■ Нядаўна эстрадны калектыў гуртка БГКТ з вёскі Плёскі (Бельскі павет) даў канцэрт у сельскагаспадарчай спулдзельні ў Дарожках (Беластоцкі павет) і ў Беластоку ў «папраўчаку» для «трудных» дзяцей.

■ Гурток БГКТ у Васількове, што каля Беластока (старшыня гуртка Хведар Садоўскі) арганізаваў драматычны калектыў, які ўзяўся за падрыхтоўку п'есы «Міхалка». Ужо адбыліся першыя рэпетыцыі. Варта адзначыць і тое, што гурток атрымаў дазвол раз у тыдзень арганізаваць свае мерапрыемствы ў мясцовай святліцы.

■ 15 сакавіка пад кіраўніцтвам намесніка старшыні гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку Уладзіміра Паўлоўскага адбылася нарада актыву, на якой была выбрана новая рада клуба ў наступным складзе: Анатоль Казмерук (старшыня), Марыся Пракапюк (намеснік старшыні), Янка Ахрымюк, Анатоль Навіцкі, Уладзімір Сімаковіч, Валянціна Рубчэўская і Ірэна Врубэль. Новая рада апрацавала праект «рэгуляміну» клуба.

■ На Гайнаўшчыне вялікім зацікаўленнем карыстаюцца выдавецтвы Галоўнага праўлення БГКТ. Гайнаўскі аддзел БГКТ за апошнія два месяцы прадаў 1890 экземпляраў «Беларускага календара» на 1973 год, шмат экземпляраў кніжкі пад загалоўкам «БГКТ» і 95 грампласцінак з песнямі вядомага беларускага спевака Міхася Забэйды-Сумiцкага.

■ 23 сакавіка прэзідыум гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку сустрэўся з радай клуба; супольна яны разгледзелі праект правілаў (рэгулямін) для наведвальнікаў клуба. Былі ўнесены да яго некаторыя папраўкі, а затым аднагалосна зацверджаны. Супольна таксама была падрыхтавана штотыднёвая праграма мерапрыемстваў на красавік і май. Члены прэзідыума аддзела пастанавілі на дзень 13 красавіка склікаць пленум аддзела, які дасць ацэнку дагэтуляшняй працы прэзідыума і накрэсліць заданні на бліжэйшыя перыяд дзейнасці.

■ 23 і 24 сакавіка кінапрасоўкай ГП былі паказаны савецкія фільмы «Бриллиантовая рука» і «Чырвоное лісце» ў Саках, Семяноўцах, Скупаве, Старым Корніне і Дубічах Царкоўных (Гайнаўскі павет). У Тарнопалі пасля фільма адбылася сустрэча сакратара гайнаўскага аддзела БГКТ Віктара Буры з актывам гуртка, на якой, між іншым, была абмяркавана дзейнасць гуртка, які шэфствуе над мясцовым клубам. Штатны працаўнік клуба Галена Бельская (яна актыўны член БГКТ) прадставіла праблематыку працы гуртка ў насценных газетках. Да найбольш ініцыятыўных людзей гуртка БГКТ залічаецца тут Уладзімір Гайдук — мясцовы літаратар, зборнік вершаў якога выдала Галоўнае праўленне БГКТ. (мх)

# ◊ Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі



## СВЕТ

### УЗНАГАРОДА НГУЕН ТХІ БІНЬ

28 сакавіка Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР М. Падгорны ўручыў у Крамлі ордэн Дружбы народаў вядомай грамадскай дзеячцы, члену Цэнтральнага Камітэта Нацыянальнага фронту вызвалення, міністру замежных спраў Рэспублікі Паўднёвы В'етнам Нгуен Тхі Бінь. Гэтай узнагароды яна ўдастоена за вялікія заслугі ў справе ўмацавання міжнароднай салідарнасці прагрэсіўных, дэмакратычных і міралюбівых сіл, за плённую дзейнасць па забеспячэнню міру ў В'етнаме і згуртаванню патрыятычных сіл Паўднёвага В'етнама і ў сувязі з Міжнародным жаночым днём 8 сакавіка.

### АБ ЛЁСЕ «МАЛЫХ ТЭРЫТОРЫЙ»

У спецыяльным камітэце ААН па ажыццяўленню Дэкларацыі аб прадстаўленні незалежнасці каланіяльным краінам і народам абмяркоўваецца пытанне аб лёсе так званых «малых тэрыторый», якія ўсё яшчэ застаюцца пад каланіяльным панаваннем імперыялістычных дзяржаў.

Пытанне аб «малых тэрыторыях» набывае вялікае значэнне ў сувязі са спробамі каланіяльных дзяржаў захаваць сваё панаванне над імі пад выглядам няздольнасці малых краін да самастойнага кіравання. У захаванні за сабой «малых тэрыторый» каланіяльныя дзяржавы бачаць перш за ўсё магчымасць іх выкарыстання для стварэння ваенных баз у важных стратэгічных раёнах, што вядзе да падтрымання міжнароднай напружанасці.

### ВАЖНАЯ ПАДЗЕЯ

У палітычных і грамадскіх колах ФРГ надалі вялікае значэнне прыёму Генеральным сакратаром ЦК КПСС Л. Брэжневым пасла ФРГ у Савецкім Саюзе У. Зама. На прэс-канферэнцыі прадстаўнік урада ФРГ ахарактарызаваў гэты прыём як важную падзею. Падкрэсліваючы, што У. Зам перадаў Л. Брэжневу асабістае пасланне кіраўніка ўрада ФРГ В. Бранта, газета «Генерал-анцайгер» піша: «Савецка-заходнегерманскія кантакты і гутаркі праходзяць пад знакам нармалізацыі адносін паміж дзвюма краінамі і ўздзеяння дагавору паміж СССР і ФРГ».

У колах палітычных назіральнікаў у Боне напамінаюць аб урадавай заяве, з якой выступіў у студзені гэтага года канцлер В. Брант, які падкрэсліў, што ўрад ФРГ «будзе імкнуцца да шырокага супрацоўніцтва з дзяржавамі Усходняй Еўропы». «Для Бона, — піша ў гэтай сувязі газета «Вестфелішэ рундшау», — гутарка ідзе аб тым, каб актыўна працягваць палітыку, якая пачата ўсходнімі дагаворамі (г.зн. дараворамі ФРГ з СССР і Польшчай), каб не стваралася ўражанне, быццам гэта фраза практычна закончылася з заключэннем гэтых даравораў».

### РЭАРГАНІЗАЦЫЯ ЎРАДА

Прэзідэнт Чылі Сальвадор Альендэ правёў рэарганізацыю ўрада. Назначана 6 новых міністраў. Міністрам унутраных спраў стаў сацыяліст Херадда Эспіноса Карыльо. Ён замяніў на гэтай пасадзе генерала Карпаса Пратаса, які пайшоў у адстаўку. (ак)



## БССР

### ДОМ I З'ЕЗДУ РСДРП

На зарэчнай ускраіне Мінска, на былой Захар'еўскай вуліцы, у маленькім драўляным доміку чыгуначніка сацыял-дэмакрата П. В. Румянцава ў сакавіку 1898 года сабраўся I з'езд Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі, які абвясціў аб стварэнні марксісцкай партыі рабочых царскай Расіі. Удзельнікі З'езду абралі Цэнтральны Камітэт і выпрацавалі прынцыпы партыйнага будаўніцтва. Была гэта знамянальная падзея для ўсяго сусветнага рабочага руху.

Пасля перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі дом П. В. Румянцава быў пераўтвораны ў «Дом-музей I з'езду РСДРП». У час акупацыі гітлераўцы зраўнялі яго з зямлёй, але неўзабаве гістарычны дом быў нанава адбудаваны з захаваннем даўнейшага выгляду і ўнутранага распланавання.

Цяпер Дом-музей I з'езду РСДРП наведваюць тысячы грамадзян Савецкага Саюза і замежныя госці, бо гэтае месца ў сталіцы БССР дарагое кожнаму камуністу, працоўным усёй зямлі.

За 75 год ад дня I з'езду РСДРП пад кіраўніцтвам партыі савецкі народ здзейсніў няведаныя пераўтварэнні ў сваім жыцці.

### 100 ДАДАТКОВЫХ ТРАКТАРАЎ

Калектыў Мінскага трактарнага завода 28 сакавіка выпусціў за вароты прадпрыемства ўжо соты ў гэтым годзе звышпланавы трактар. Пры гэтай нагодзе варта прыпомніць, што 5 лістапада з канвеера Мінскага трактарнага завода сышоў мільённы трактар «Беларусь».

### КАЛІСЬЦІ ЗВАЛІ ЛЯХАЎКАЙ...

Ляхаўка — у мінулым адна з ускраін Мінска.

Пасля Вялікага Кастрычніка перайменавана ў Чырвоны Гай, які стаў месцам адпачынку мінчан. У пасляваенныя гады менавіта тут былі ўзведзены прамысловыя гіганты, а між іншым трактарны, аўтамабільны, маторны і падшыпнікавы заводы. Вакол іх выраслі жылыя пасёлкі. Вялікі сасновы масіў ператвораны ў лесапарк. Па выпуску прамысловай прадукцыі былая Ляхаўка займае сёння першае месца сярод кварталаў сталіцы БССР.

### КВАТЭРЫ ДЛЯ МАЛАДАЖОНАЎ

У вёсцы Стараселле Шклоўскага раёна вырас новы жылы мікрараён, які складаецца з трыццацідвухкватэрных дамоў. Яны па-сучаснаму абсталяваны. Праўленне калгаса імя Кірава рашыла гэтыя кватэры прызначыць для маладых сем'яў.

### 24 ЦЭНТНЕРЫ

З Брэста паведамляюць, што калгасы і саўгасы вобласці вырашылі сёлета атрымаць з кожнага гектара па 24 цэнтнеры збожжа. (вр)




### VI КАНГРЭС ЗСЛ

У Варшаве ў зале філармоніі тры дні працаваў VI кангрэс ЗСЛ. Прыехала на яго многа заграцічных дэлегацый сялянскіх партый з усяго свету.

ЗСЛ налічвае цяпер 430 тысяч членаў і выконвае важную палітычную і гаспадарчую ролю ў жыцці краіны. Сваю працу Кангрэс канцэнтраваў на інтэнсіфікацыі сельскай гаспадаркі.

### ЧАРГОВАЯ ВАЯВОДСКАЯ...

справаздачна-выбарная канферэнцыя адбылася ў Жэшове. Жэшоўская ваяводская арганізацыя налічвае 113 тысяч членаў. Удзельнічаў у канферэнцыі член Палітбюро, міністр замежных спраў ПНР Стэфан Альшоўскі.

На Жэшоўшчыне працуюць такія вядомыя прадпрыемствы, як ВСК у Мельцы, дзе рабочыя прынялі ў апошні час абавязацельствы пабудаваць навейшага тыпу самалёт для сельскай гаспадаркі, як «Зэльмер» у Жэшове, які прадукуе навейшыя тыпы тавараў дамашняга характару. На камбінаце «Сталёва Воля» на працягу апошняга месяца апрацаваны новы спосаб выплаўкі новага гатунку сталі, які неабходны для прадукцыі цяжкіх трактараў.

### МАТУРЫ Ў 1973 ГОДЗЕ

Уся моладзь сярэдніх школ розных тыпаў у гэтым годзе прыступіць да экзаменаў на атэстат сталасці ў адзін дзень. Пісьмовыя экзамены адбудуцца ў цэлай краіне 10 мая — па польскай мове, 11 — па матэматыцы, 12 — экзамен па замежнай мове, 14 — экзамен па выбраным прадмеце з пяці наступных: фізіка, хімія, біялогія, геаграфія, навука аб Польшчы і сучасным свеце.

### КРАСАВІК — МЕСЯЦ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ПАМЯЦІ

ЗБоВіД і Рада аховы помнікаў змагання і мук накіравала заклік да грамадства, у якім напамінае трагедыю апошняй вайны, змаганне Савецкай Арміі і Польскага Войска. Гаворыцца ў закліку аб памяці пра тых, якія загінулі за нашу свабоду.

15 сакавіка гэта Дзень ветэрана, які ва ўсёй Еўропе адзначаецца пад лозунгам барацьбы за мір, бяспеку, агульнае раззбраенне і мірнае суіснаванне.

### У «ТРЫБУНЕ ЛЮДУ» ПРА БЕЛАСТОЧЧЫНУ

У сувязі з ваяводскімі партыйнымі канферэнцыямі «Трыбуна Люду» — орган ЦК ПАРП увяла на свае старонкі публікацыі пра розныя ваяводствы. У апошні тыдзень у пятніцу выйшла старонка, прысвечаная Беласточчыне. Вядучым артыкулам быў: «Прафесіянальная амбіцыя гаспадароў: больш прадукаваць для краіны».

### САЦЫЯЛІСТЫЧНЫ САЮЗ ПОЛЬСКІХ СТУДЭНТАЎ

Такую назву прыняў з'езд польскіх студэнтаў, які адбыўся ў мінулым тыдні. Прысутнічаў на ім член Палітбюро, сакратар ЦК Ф. Шляхціц. Праграма студэнцкай арганізацыі, якая, як усе іншыя маладзёжныя арганізацыі, ўвайшла ў Федэрацыю сацыялістычнага саюза польскай моладзі, у скарачэнні гучыць: наша энергія, энтузіязм і веды будуць служыць краіне. (вл)




### Е. ЛУКАШЭВІЧ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

Гэтымі днямі на Беласточчыне прабываў сакратар ЦК ПАРП тав. Е. Лукашэвіч. У суправаджэнні I сакратара ВК ПАРП З. Куроўскага, сакратара ВК Я. Златажынскага, галоўнага рэдактара «Газеты Беластоцкай» М. Юрковіча і іншых, Е. Лукашэвіч сустрэўся з палітычным і грамадска-гаспадарчым актывам у Сувалках, а затым наведаў будову перадатачнай тэлевізійнай станцыі.

### XXIII СЕСІЯ ВРН

3 сакавіка адбылася XXIII сесія Ваяводскай рады нарадовай. Абмяркоўвалася дзейнасць ПРН у Ломжы. З дакладам аб дасягненнях Ломжынскага павету выступаў старшыня ПРН у Ломжы Е. Нэвэльскі. Падкрэслівалася, што ломжынскія сяляне значна павялічылі ў апошнія гады свінагадоўлю. Таварная прадукцыя ўзрасла на 68,8% у параўнанні з 1969 годам. Праца ПРН у Ломжы была добра ацэнена на сесіі. У прынятай па гэтаму пытанню пастанове звяртаецца ўвага на неабходнасць хутчэйшага будаўніцтва новых аб'ектаў для прамысловасці і жылых дамоў, палепшыць якасць і павялічыць колькасць прамысловых вырабаў, развіваць садоўніцтва і агародніцтва, паляпшаць дарогі, паляпшаць умовы працы ў пляцоўках службы здароўя і інш.

На сесіі абмяркоўвалася таксама дзейнасць радных, прынята была пастанова аб павелічэнні выдаткаў на патрэбы аховы здароўя. Зацверджаны быў таксама спісак курортных мясцовасцей, у якіх будзе ўведзена дадатковая аплата. Сярод іх — Белавежа.

### НАРАДА КАМЕНДАНТАЎ

У КВ МО ў Беластоку адбылася нарада камендантаў гмінных пастарункаў міліцыі. На нарадзе прысутнічалі віцэміністр унутраных спраў ген. брыг. М. Мілеўскі і намеснік старшыні Прэзідыума ВРН Р. Лазаровіч.

На нарадзе абмяркоўваліся задачы гмінных пастарункаў па паляпшэнню бяспекі і грамадскага парадку. Падкрэслівалася неабходнасць звярнуць больш увагі на выхаваўча-прафілактычную дзейнасць і завастрыць кару для тых, хто свядома парушае законы грамадскага сужыцця.

### ДЗЕНЬ ТЭАТРА

Урачыста быў адзначаны ў нашым ваяводстве міжнародны дзень тэатра. 27 сакавіка перад пачаткам спектакля дырэктар тэатра Б. Орліч прывітаў прыбыўшых на спектакль прадстаўнікоў партыйных і дзяржаўных улад на чале з сакратаром ВК ПАРП Я. Златажынскім. Ён падзякаваў за віншаванні, атрыманыя ад экзекутывы ВК ПАРП, аддзела культуры ПВРН, шматлікіх устаноў і гледачоў. Дэлегаты ўсіх гэтых устаноў і беластоцкіх школ уручылі артыстам шмат кветак. (яч)




**Niedziela 8.IV.**

7.35 Program dnia. 7.40 TV Kurs Rolniczy. 8.15 „Przypominamy, radzimy". 8.25 „Nowoczesność w domu i zagrodzie". 9.00 TELERANEK. 10.20 „Antena". 10.35 „Wszystko dla ich dobra" — film dok. ang. („Świat, który nie może zaginąć") odc. II. 11.00 „W starym kinie" — „Dzwonnik z Notre Dame" — film arch. 12.15 Dziennik. 12.30 „Na chłopski rozum". 13.00 Dla dzieci: Z. Poprawski — „Smok bestyja". 13.45 „Piórkiem i węglem". 14.10 Sportowy magazyn sprawozdawczy; w I przerwie ok. 14.30 Losowanie Toto-lotka; w II przerwie ok. 15.30 Wiadomości dziennika. 16.30 „Śladami Piastów Śląskich" — ŚWIDNICA. 17.00 Gra Orkiestra TV Katowice. 17.25 „Pojedynek 2" — I runda (Tadeusz Ross i Jacek Żemantowski). 18.15 „Tele-Echo". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Contessa" — film pol.-franc. („Wielka miłość Balzaka") odc. III. 21.00 PKF. 21.10 „Ta najwierniejsza" — Jubileusz „Przyjaciółki" — program z okazji 25-lecia tyg. „Przyjaciółka". 22.20 Magazyn sportowy.

**Poniedziałek 9.IV.**

12.45 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin. 15.20 i 22.45 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Zwierzyniec". 17.30 „Echo stadionu". 17.55 TV Kurier Olsztyński. 18.10 „Oferty". 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: K. Capek — „Biała zaraza". 21.15 „Pryzmat". 21.45 Dziennik i Wiadomości sportowe. 22.10 Utwory fortepianowe Ravela i Debussy'ego gra Bernard Ringeisen (Francja).

**Wtorek 10.IV.**

9.00 „Contessa" — film pol.-franc. („Wielka miłość Balzaka") odc. III. 10.00 Dla szkół: (kl. IV) „Tu mieszkał Mikołaj Kopernik". 10.55 Dla szkół (kl. III lic.) Język polski — St. Witkiewicz — „W małym dworku". 13.50 Program dnia. 13.55 Sprawozdanie z meczu hokejowego o Mistrzostwo Świata — grupa A — Czechosłowacja — Szwecja. 16.30 Dziennik. 16.40 TELEWIZJA MŁODYCH. 18.10 Program rozrywkowy. 18.25 TV Kurier Mazowiecki. 18.45 „Morskie spotkania". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Zaloty pięknego dragona" — film fab. czechosł. 21.35 „Spotkanie z pisarzem — Mieczysławem Jastrunem". 22.05 Dziennik i Wiadomości sportowe. 22.35 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 23.10 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin.

**Środa 11.IV.**

8.25 „Zaloty pięknego dragona" — film fab. czechosł. 9.55 Dla szkół: (kl. VI) Fizyka — „Sprężone powietrze". 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Fizyka — „Silnik spalinowy". 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Historia — „Polskie słowo". 12.45 Technikum Rolnicze: Zoologia. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Hodowla zwierząt. 14.00 „Wybieramy zawód". 15.20 i 23.15 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Słowo honoru". 17.10 Dla dzieci: L. Górski — „Misie nie chcą iść spać" — widowisko Państw. Teatru Lalek „Tęcza" w Słupsku. 17.35 „Informacje, Towary, Propozycje". 17.55 „Przez Afrykę" — film dok. czechosł. 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 Magazyn medyczny. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Studio 63: M. Żuławski — „Zbieg okoliczności" („Opowieści mojej żony"). 20.15 „Maria" — film radz. („Cienie zanikają w południe") odc. I. 21.35 Sprawozdanie z meczu hokejowego o Mistrzostwo Świata — grupa A Polska — Zw. Radziecki. 22.50 Dziennik.

**Czwartek 12.IV**

7.40 „Maria" — film radz. („Cienie zanikają w południe") odc. I. 9.00 Dla szkół: (kl. VII) Chemia — „Zasady". 9.55 Dla szkół: (kl. II lic.) Język polski — „Bolesław Prus". 10.55 Dla szkół: (kl. III lic.) Język polski — St. Witkiewicz — „W małym dworku". 11.55 Dla szkół: (kl. VII—VIII) Język polski — „Film". 14.00 Matematyka w szkole: „Mnożenie i dzielenie liczb". 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Ekran z bratkiem". 17.45 PKF. 17.55 „Mistrzowie batuty" — Stanisław Wisłocki. 18.25 TV Kurier Mazowiecki. 18.45 Program publicystyczny. 19.10 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Alfred Hitchcock przedstawia" — film. 20.50 „Refleksje". 21.20 Sprawozdanie z meczu hokejowego o Mistrzostwo Świata — grupa A Finlandia — Polska. Wiadomości sportowe. 22.50 Dziennik. 23.15 TV Technikum Rolnicze: Zoologia. 23.50 TV Technikum Rolnicze: Hodowla zwierząt.

**Piątek 13.IV.**

9.00 „Alfred Hitchcock przedstawia" — film. 9.55 Dla szkół: (kl. VI) Geografia — „Pojezierze Mazurskie". 10.55 Dla szkół: (kl. VII—VIII) Wychowanie techniczne — „Elektronika na codzień". 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Chemia — „Szkło". 12.45 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Botanika. 15.20 i 23.35 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Rysunek techniczny. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Pora na Telesfora". 17.30 Sprawozdanie z meczu hokejowego o Mistrzostwo Świata — grupa A Zw. Radziecki — Czechosłowacja; w I przerwie: „Nie tylko dla pań"; w II przerwie: TV Kurier Warszawski. 19.50 Dobranoc. 20.00 Dziennik. 20.30 „Wieczór bez gwiazdy" — Elżbieta Jodłowska. 21.05 „Panorama". 21.45 Teatr TV na świecie: M. Gorki — „Jegor Bułyczow", widowisko TV radzieckiej. 23.05 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**Sobota 14.IV.**

8.30 FILMY Z GRETĄ GARBO: „Mata Hari". 9.55 Dla szkół: (kl. VII) Zoologia — „Ptaki". 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Geografia — „Japonia". 11.55 Dla szkół: (kl. IV lic.) Biologia — „Ochrona biosfery". 13.45 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 14.20 TV Technikum Rolnicze: Zoologia. 14.50 Program dnia. 14.55 Program I proponuje. 15.15 Redakcja Szkolna zapowiada. 15.30 TV Informator Wydawniczy. 15.55 Teatr Młodego Widza: Molier — „Szelmostwa Skapena". 17.15 Dziennik. 17.30 Sprawozdanie z meczu hokejowego o Mistrzostwo Świata — grupa A NRF — Polska; w I przerwie: „Turystyka i wypoczynek"; w II przerwie: Wiadomości sportowe. 19.50 Dobranoc. 20.00 Monitor. 20.45 „Gwiazdy siedmiu stolic" — Głos ma Berlin. 21.45 Dziennik. Wiadomości sportowe. 22.10 FILMY Z GRETĄ GARBO: „Mata Hari".




**Piątek, 6 kwietnia**

8.05 Film fab. 10.05 Szkoła szachowa. 10.35 Filmy dokument. 13.20 Program dnia. 13.25 Spektaki kukiełkowy dla dzieci. 17.25 Film fab. 19.00 Czas. 20.35 Film dokument.

**Sobota, 7 kwietnia**

7.00 Program dnia. 7.30 Białe i czarne. 7.50 Mozaika muzyczna. 8.05 Przegląd międzynarodowy. 8.20 Film dokument. 9.15 Koncert zespołów amatorskich. 10.10 Film fab. 13.10 Spotkanie z kosmonautą. 13.55 Hokej. Finlandia — Czechosłowacja. 16.15 Śpiewa Zykina. 17.00 Czas. 17.25 Hokej. Szwecja — ZSRR. 19.45 TV teatr miniatur. 20.35 Ekran i czas.

**Niedziela, 8 kwietnia**

7.00 Program dnia. 8.00 Dla żołnierzy. 8.30 Kiosk muzyczny. 12.45 Koncert życzeń. 13.15 Klub filmowy. 14.25 Film fab. 16.40 Koncert. 17.00 Czas. 17.25 Hokej. NRF — ZSRR. 19.45 Panorama filmowa. 21.15 Piłka nożna. SKA (Rostów) — „Dynamo" (Mińsk).

# ГОНАР І ДАСЯГНЕННІ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ

Чарговы раз займаю месца за журналісцкім сталом вялікай канферэнцыйнай залы Прэзідыума ВРН. Усё, як зазвычай, толькі ўдзельнікі мерапрыемства нейкія іншыя, незвычайныя. Гэта найлепшыя гаспадары Беласточчыны. Запрасілі іх партыйныя і адміністрацыйныя ўлады, каб супольна падсумаваць конкурс «Беластоцкая вёска — гаспадарная і культурная». Многа іх тут сабралася. Усе па-святочнаму апрануты, пабрытыя. Цяжка пазнаць нават тых, у якіх бываў дома, з якімі гутарыў.

На ўрачыстасць прыбылі дастойныя госці, а сярод іх член Палітбюро ЦК ПАРП віцэ-прэм'ер Юзэф Тэйхма, член ЦК ПАРП, I сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП Здзіслаў Куроўскі і старшыня Прэзідыума ВРН Зыгмунт Спрыха.

Што даў конкурс, кожны з гэтых гаспадароў дасканала ведае, ведаюць і ўлады, паколькі вылічальныя машыны ўжо даўно падлічылі сярэднія. Аднак усе з зацікаўленнем слухаюць даклад і выступленні, слухаюць, бо ўжо яны пачуліся адной сям'ёй найлепшых, адчулі, што з'яўляюцца гонарам сельскай гаспадаркі Беласточчыны.

У конкурсе «Беластоцкая вёска — гаспадарная і культурная» ў мінулым годзе прыняло ўдзел 9,5 тысяч гаспадароў і 1966 вёсак, у якіх налічваецца каля 76 тысяч гаспадарак. Гэта сведчыць аб вялікім зацікаўленні спаборніцтвамі. Аднак лічыліся тут канкрэтныя, добрыя вынікі ў гаспадарцы, а такімі магло выказацца 1779 узорных гаспадароў, а асабліва 575 майстраў сельскагаспадарчай прадукцыі.

Дасягненні гэтых апошніх сапраўды вялікія. У сярэднім з кожнага гектара сабралі яны: 31,8 цэнтнера збожжа, 283 цэнтнеры бульбы, прадалі дзяржаве па 324 кілаграмы мяса і каля 1.100 літраў малака. Віцэ-прэм'ер Ю. Тэйхма ў час свайго выступлення сцвердзіў, што перадавыя гаспадары дасягнулі добрых, а нават выдатных вынікаў у сельскай гаспадарцы, якія цэняцца не толькі ў нашым ваяводстве, але і ў краіне.

Зразумела, гэтыя добрыя вынікі майстроў сельскагаспадарчай прадукцыі дасягнуты дзякуючы сучаснай і рацыянальнай агратэхніцы, а перш за ўсё — багатаму ўгнаенню. Ужо сёння майстры ў сярэднім высяваюць па 275 кілаграмаў NPK на адзін гектар угоддзяў. Ёсць шмат такіх, якія высяваюць па 500 кілаграмаў. Напрыклад, Уладзімір Тымашыцкі са Шчытоў-Навадворцаў у Бельскім павеце на пашу высявае 630 кілаграмаў на адзін гектар. Зразумела, такія высокія даўкі патрабуюць майстэрства, ведаў, як, калі і па колькі высяваць. Тымашыцкі на 1,5 гектара пашы пасе 16 штук кароў, а апрача таго ў мінулым годзе сабраў 10 тон травы на сілас, а 5 тон на сена. Не верыце? Паедзьце і пабачыце ўласнымі вачыма.

Цікавыя вынікі атрымалі гаспадары, спаборнічаючыя за званне ўзорнага гаспадара. Кожны з іх мусіў дасягнуць не горшых вынікаў, чым 25 цэнтнераў збожжа, 220 цэнтнераў бульбы з аднаго гектара, а таксама 70 штук жывёлы і 95 штук свіней, пералічваючы на 100 гектараў угоддзяў.

Пры гэтым трэба дадаць, што ў мінулым годзе ўраджай збожжа ў нашым ваяводстве склаў у сярэднім 22,2 цэнтнера з аднаго гектара, бульбы — 207 цэнтнераў, а з кожнага гектара ўгоддзяў скуплена ў ваяводстве 82 кілаграмы мяса і 282 літры малака.

Параўнанне вынікаў перадавых гаспадароў і сярэдняй ваяводскай даказвае, якія вялікія рэзервы крыюцца ў беластоцкай сельскай гаспадарцы, у кожнай вёсцы, у кожным гектары зямлі. Як жа кантрастуе прадукцыя адстаючых гаспадароў з гаспадаркамі такіх, як У. Тымашыцкі са Шчытоў, Г. Назарук, У. Куптэль, ці В. Плева з Ягаднікаў, М. Лаўрыновіч з Пасечнікаў, В. Астапковіч з Чаромхі ці хаця б А. Лісоўскі з Зубава. А палі ж і гаспадаркі перадавых і адстаючых часта цераз мяжу, па-суседску.

Конкурс «Беластоцкая вёска — гаспадарная і культурная» працягваецца і ў гэтым годзе. Гаворачы аб мінулагоднім, тав. З. Куроўскі сказаў: «Ацэнка ходу конкурсу ўмацоўвае нашае перакананне, што з'яўляецца ён істотным стымулам для развіцця грамадска-эканамічнай актыўнасці, распаўсюджвае высакароднае спаборніцтва на званне найлепшых гаспадароў Беласточчыны. З такім перакананнем аб'яўляем сёлетні конкурс для вёсак і гаспадароў нашага рэгіёну. Я перакананы ў тым, што яго тэматыка будзе ўзбагачана новымі ініцыятывамі жыхароў вёсак і работнікаў абслугі сельскай гаспадаркі».

А вось некаторыя інфармацыйныя даныя аб мінулагоднім конкурсе. У конкурсе ўдзельнічала 56 прац. вёсак. Найменш вёсак прымала ўдзел у конкурсе ў Бельскім і Сакольскім паветах. Узнагародзіла 109 вёсак, выдаткоўваючы 5,5 мільёна зл. Першая ваяводская ўзнагарода не была прызнана, таму што былі збежныя вынікі ў некалькіх вёсках. Па 150 тысяч зл. узнагароды атрымалі вёскі: Бэнцькова, Граеўскі павет, Яварoўка, Беластоцкі павет і Вышомеж, Замброўскі павет. Па 100 тысяч зл. узнагароды атрымалі: Сухавольцы Гайнаўскага павету, Вінна Хролы Сямяціцкага павету, Ляўданшчызна Дуброўскага павету і Пшэстшэле Ломжынскага павету.

Вышэй сказанае хацелася б закончыць словамі віцэ-прэм'ера Ю. Тэйхмы: «Партыя і ўрад высока цэняць дасягненні беластоцкіх гаспадароў... А гаспадары, атрымліваючы такія вынікі, будуюць свой аўтарытэт і прэстыж. Сваёй працай, а асабліва дынамікай вы заслужылі на званне гаспадароў Цэнтральных дажынак».

*А. Карпюк*

# ФАЛЬКЛОР

**ВЯСЕЛЬНАЯ**

Moderato







*Ой, чы світ, чы світае,*
*Чы на зоры займае?*
*Чы мой міленькі, голуб сівенькі*
*Коніка аседлае?*
*Чы мой міленькі, голуб сівенькі*
*Коніка аседлае?*
*Асядлай, мілы, коня,*
*Асядлай вараного.*
*Прыезджай, мілы, забірай, мілы,*
*Міне маладзенькую.*
*Прыезджай, мілы, забірай, мілы,*
*Міне маладзенькую.*

Ад Зоф'і Марцінчык, 1921 года нараджэння, вёска Меляшкі, Беластоцкага павету, запісаў 24 студзеня 1973 г. Мікалай Гайдук. З магнетафоннай стужкі нотны запіс зрабіў Эдуард Гойлік.




У Беластоку дзейнічаюць тры жыллёвыя кааператывы. Адным з іх, наймалодшым у гэтай сям'і, з'яўляецца жыллёвы кааператыў «Сям'я чыгуначніка». Назва «Сям'я чыгуначніка» завужвае паняцце дзейнасці кааператыва, быццам будуе ён кватэры толькі для чыгуначнікаў. А гэты ж кааператыў дзейнічае на тых самых правах, што і ўсе іншыя жыллёвыя кааператывы, і дае ён кватэры для ўсіх. Назва прынялася ад першага сходу, на якім заснавальнікамі яго былі перш за ўсё чыгуначнікі.

Кааператыў «Сям'я чыгуначніка» мае ўжо сваю дзесяцігадовую гісторыю. Першы жыллёвы будынак перадказаў ён у карыстанне ў 1961 годзе на пасёлку пад назвай «Прывакзальны». Пяць гадоў пазней кааператыў пачаў будаваць дамы на новым пасёлку «Антанюкоўскія сады» і да 1960 года пабудаваў іх тут 13. На працягу першых дзесяці гадоў існавання кааператыў чыгуначнікаў пабудаваў 20 блокаў. Цяпер на пасёлку «Прывакзальным» кааператыў мае 891 кватэру і на пасёлку «Антанюкоўскія сады» — 1290 кватэр. Разам 2181 кватэру ў 31 блоку. Жыллёвыя пасёлкі кааператыва чыгуначнікаў прыгожыя, цікава размешчаныя і чыстыя. Жыхары іх маюць на месцы рэстараны, кавярні, розныя пункты паслуг, гандлёвыя павільёны. Лік іх з году ў год павялічваецца, бо растуць пасёлкі. Кааператыў налічвае ў сучасны момант больш пяці тысяч членаў і больш тысячы кандыдатаў. Значыць, трэба яму многа будаваць.

Аднак у дзейнасці жыллёвага кааператыва лічыцца таксама грамадска-асветная, культурная і выхаваўчая работа, якая вядзецца сярод жыхароў кааператыўных пасёлкаў. Кааператыў назначае спецыяльна падрыхтаваных работнікаў для вядзення культурна-асветнай работы сярод дзяцей і дарослых. Гэтыя мерапрыемствы адбываюцца ў святліцах. Дзейнічаюць тут шматлікія гурткі: вакальна-музычны, танцавальны, мадэльшчыкаў і іншыя. Арганізуюцца культурныя мерапрыемствы з такіх нагод, як дзяржаўныя святы, а таксама танцавальныя вечарыны, навагоднія балі, кулікі. Арганізуюцца таксама курсы, на якіх вучацца, як карыстацца сучаснай тэхнікай у хатняй гаспадарцы.

Жыхары пасёлкаў і ўвесь актыў кааператыва многа працуе грамадска пры пабудове вуліц, напрыклад, Сталічнай, Суконнай, Нараўскай і іншых, пры пабудове прадшколля, пракладцы ходнікаў, пабудове спартыўных пляцовак, пасадцы дрэў, кустарнікаў, кветак і г.д. У гэтай галіне ў міжкааператыўным спаборніцтве «Сям'я чыгуначніка» заняла першае месца за мінулы год і атрымала грашовую ўзнагароду. Асабліва многа пасаджана дрэў і кветак на новым пасёлку «Антанюкоўскія сады». У спартыўных спаборніцтвах між паасобнымі кааператывамі члены кааператыва чыгуначнікаў занялі ў 1972 годзе заслужанае другое месца ў агульнай пунктацыі, а ў некаторых відах спорту нават некалькі першых месцаў. Многа для агульнага дабра працуюць: Марыя Кертовіч, Павел Пятроўскі, Адам Манкевіч, Пётр Наўроцкі, Генрык Кендысь, Антон Мінкевіч, Марыя Сакульская, Станіслава Астроўская, Ядвіга Матэля, Аліцыя Гамолік і іншыя. Дзякуючы шматасабоваму і ахвярнаму актыву кааператыў мае вялікія дасягненні ў грамадскіх працах і на культурна-выхаваўчай ніве.

— У гэтым годзе наш кааператыў, — гаворыць старшыня кааператыва Васіль Місеюк, — перадасць ключы да ўласных кватэр 377 сем'ям, на пасёлку «Антанюкоўскія сады», будзе перададзены да агульнага ўжытку клуб «Рух». На будучыню нашыя інвестыцыйныя намеры не менш амбітныя. Яшчэ сёлета пачнем весці пабудову дамоў у рамках ЗМС-аўскага патранату.

*Тэкст і фота Янкі Цялушэцкага*



*Танцавальны калектыў, які вядзе харэограф Валя Жэшка.*




*Вось такія жылыя дамы будуе кааператыў «Сям'я чыгуначніка».*

